# 30 Год Згуртаваньня Беларусаў Канады

9-га сьнежня, 1978, у залі Беларускага Рэлігійна-Грамадзкага Цэнтру ў Таронце Згуртаваньне Беларусаў Канады адзначала 30-я ўгодкі свайго існаваньня.

Урачыстасьць, што пачалася малітвай „Беларусь наша Маці Краіна", мела форму канфэрэнцыі – дыскусійнага вечара й сяброўскай бяседы.

Першая частка вечара складалася з чатырох прээнтацыяў: уводнага слова старшыні Галоўнай Управы ЗБК Сп. В. Касьцюкевіча, рэфэрату Др. Раісы Жук-Грышкевіч „На Трыццатыя Ўгодкі Згуртаваньня Беларусаў Канады", дакладу Др. Яўхіма Скурата „Будучыня нашай эміграцыі" й „брыфу" прадстаўніка беларускай моладзі Канады Сп. Паўлюка Пашкевіча, які свае разважаньні на тэму „Маладое беларускае пакаленьне, як зьмена беларускай грамадзкасьці Канады" выказаў у беззаганнай беларускай мове.

Багатую для душы й розуму страву дапоўніў смачны пачастунак, пасьля чаго пад кіраўніцтвам Др. Барыса Рагулі разьвілася жывая й творчая дыскусія на тэму: А што далей? Дыскусія, з удзелам і голасу маладога пакаленьня, прадаўжалася амаль да поўначы. Агульныя высновы, агульныя думкі выказваньняў можна падсумаваць наступна: Як і дагэтуль, аж пакуль жывём, будзем рабіць, як і рабілі, што толькі можам. Большую ўвагу трэба ўдзяліць маладому пакаленьню й каб болей прыцягнуць яго да беларускага жыцьця, трэба ствараць больш адпаведныя, больш спрыяльныя для маладых абставіны.

Імпрэза закончылася ў добрым настроі адсьпяваньнем Беларускага Нацыянальнага Гімну.

– Р.Ж-Г.

## НА ТРЫЦЦАТЫЯ УГОДКІ ЗГУРТАВАНЬНЯ БЕЛАРУСАЎ КАНАДЫ

*Даклад прачытаны на сьвяткаваньні 30-х угодкаў ЗБК*

Кожнае пакаленьне, як і кожны чалавек, родзіцца з прызначэньнем з заданьнем да выкананьня.

У пэрспэктыве гісторыі Беларускага Народу й нашае пакаленьне атрымала ў спадчыне ад дзядоў і прадзядаў заданьне й нашы асягненьні, памылкі й недахопы перадамо мы ў спадчыне наступнаму пакаленьню.

Якое-ж заданьне да выкананьня атрымалі мы?

Ад мінулага стагодзьдзя, ад Багушэвіча й Каліноўскага наш народ змагаецца за чалавечыя правы быць гаспадаром на сваёй собскай зямлі. Гэтае імкненьне было зьдзейсьнена якраз 60 год таму назад Тварцамі Акту 25 Сакавіка, Тварцамі Беларускай Народнай Рэспублікі. Дзяржаўная незалежнасьць была аднак хутка ад нас адабраная. І на долю нашага, так як мінулага й наступнага, пакаленьня прыпадае заданьне адваяваньня незалежнасьці Беларусі.

І сьведама, а часам і нясьведама, свайго прызначэньня беларускія юнакі й юначкі, што ў саракавых гадох прыбылі ў Канаду, сталі гуртавацца, каб рабіць беларускую работу.

У статуце заснаванага ў Таронце 28 лістапада, 1948, Згуртаваньня Беларусаў Канады кажацца: „Чынным сябрам ЗБК можа быць кожны Беларус(ка), пражываючы на тэрыторыі Канады, які мае скончаных 18 год, стаіць на грунце 25 Сакавіка..", а ў заданьнях гэтае арганізацыі, 30-ці годзьдзе якое мы сяньня адзначаем, між іншымі пунктамі кажацца: „...г) культурна-асьветная праца сярод беларускага грамадзтва Канады; д) адбудова палітычных канцэпцыяў Беларускага Народу; з) прапаганаваньне незалежніцкай ідэі Беларусі."

З гэтага ўжо відна, што мы, якія апынуліся ў Канадзе, свайго прызначэньня, свае місіі былі сьведамы. А калі так, дык як мы з сваім заданьнем на працягу 30-ці год спраўляліся, што зрабілі, а што занядбалі? Сяньня мы сабраліся, каб падрахаваць нашы асягненьні й нашы недахопы.

* * *

28 лістапада, 1948 г. 14 маладых новапрыбылых у Канаду Беларусаў сабраліся ў прыватным памешканьні ў Таронце й пастанавілі заснаваць Згуртаваньне Беларусаў Канады. Гэтая ініцыятыўная група ў сакавіку 1949 г. адзначыла, магчыма першы раз у гісторыі Канады, Дзень Незалежнасьці Беларусі – 25 Сакавіка, а 28 травеня, 1949, адбыўся ў Таронце Першы Агульны Зьезд ЗБК, пасьля якога былі заснаваны аддзелы ЗБК у Таронце, Гамільтоне, Лёндане, Ашаве, Садбуры й Мантрэалі; 9-га ліпеня Галоўная Управа ЗБК, старшынём якое быў Сп. Кастусь Акула, выдала першы заклік на збор ахвяраў на куплю Беларускага Дому ў Канадзе, а 6-га жніўня, 1949, адбылася першая зборка ў справе выданьня друкаванае газэты ў Канадзе. „Беларускі Эмігран" пад рэдактарствам Сп. К. Акулы выходзіў ад 1948 г. ратапарным спосабам.

З пратаколу 2-га Агульнага Зьезду ЗБК, які адбыўся 27 й 28 траўня 1950 г. на Ліпінкнот у Таронце, відаць, што маладое ЗБК старалася ахапіць дзейнасьцю ўсе важнейшыя дзялянкі жыцьця. Праца тармазілася недахопам памешканьня, сьв айго дому.

На 2-ім Агульным Зьезьдзе ЗБК разглядала: справу куплі дому, пытаньне ідэалягічнага напрамку ЗБК, справу арганізацыі аддзелаў і вярбоўкі новых сяброў.

Арганізацыйны Рэфэрат Галоўнай Управы ЗБК выдаў 20-га ліпеня 1950, заклік у справе вярбоўкі новых сяброў. У закліку між іншым кажацца: „Дарагія Сябры й Сяброўкі! Не давайце растварыцца й загінуць ніводнаму Беларусу ў моры чужынцаў, часта нам варожых."

На Трэцім Агульным Зьезьдзе ЗБК 19 і 20 траўня 1951, на 140 Батэрст у Таронце, старшынём якога быў Сп. Язэп Чорны, а сакратаром сьв. пам. Мячыслаў Рачыцкі, дайшло да расколу ЗБК. Прычынай было ідэалягічнае разыходжаньне.

Раскол адбіўся на сяброх ЗБК з аднаго боку прыгнятаюча, а з другога прычыніўся да мабілізацыі сіл, каб не дапусьціць да занепаду. Сп. Вінцэнт Жук-Грышкевіч арганізуе спасярод сяброў ЗБК групоўку, названую яе сябрамі, „Авангард Беларусі", якая мела за заданьне ўсіленую здысцыплінаваную працу над утрыманьнем і ўзмацаваньнем ЗБК, ды наагул беларускага нацыянальнага жыцьця ў Канадзе. І „Авангард" заданьне сваё выканаў.

У 1952 г. ЗБК стараецца навязаць кантакт з суродзічамі ў ЗША. З ініцыятывы й стараньнем Сп. В. Жук-Грышкевіча ЗБК арганізуе на Купальле на беразе Вэлэнд каля вадаспаду Ньягары Першую Сустрэчу Беларусаў Паўночнай Амэрыкі. Сустрэча адзначала 70-я ўгодкі ад нараджэньня Янкі Купалы. Лейтматывам сустрэчы быў рэфэрат Сп. В. Жук-Грышкевіча на тэму „Янка Купала, як грамадзкі дзеяч".

Важным асягненьнем гэтага году было адкрыцьцё ў восені на Ўнівэрсытэце Таронта лектарату Беларусаведы, лектарам як і ініцыятарам якога быў Др. Вінцэнт Жук-Грышкевіч.

Трэцім канкрэтным асягненьнем, таго часу, было заснаваньне стараньнем Др. В. Жук-Грышкевіча ў 1953 г. Беларускай Касы Самапомачы, (Беларусіен /Таронто/ Крэдыт Юніён Лімітэд). Каса залегалізавана канадзкімі ўладамі... Новая эканамічная беларуская арганізацыя приступіла да працы.

Дзейнасьць „Авангард" і лектарат беларусаведы спыніліся з выездам, у пачатку 1954 г., Др-а В. Жук Грышкевіча ў Нямеччыну.

1954 год даў багатыя плёны пяцігадовай працы ЗБК. 5 красавіка 1954 г. ў сьвятліцы ЗБК пры 140 Батэрст Стр. у Таронце адбылася „Канфэрэнцыя грамадзкіх і палітычных установаў Таронта" і на гэтую канфэрэнцыю былі запрошаны: „Сябры Галоўнай Управы, Наглядная Рады, Сяброўскі Суд ЗБК, Радныя Беларускай Народнай Рэспублікі, Кантрольная й Пажычковая Камісыя Беларускай (Таронта) Касы Самапомачы, Сябры „Авангарду", Кіраўнічыя й Кантрольныя Ворганы Беларускага Выдавецкага Фонду ў Канадзе.

Такой канфэрэнцыяй „грамадзкіх і палітычных установаў Таронта" пачынаецца год, а пад канец лета 1954 г. ЗБК купіла доўгачаканы першы Беларускі Дом у Канадзе, што знаходзіўся на Дандас 1000 у Таронце. Старшынём ЗБК былі тады сьв. пам. Маг. Алесь Грыцук, а сакратаром Сп. М. Ганько.

З двох найпрыгажэйшых пакояў дому пабудавалі першую ў Канадзе БАПЦарку Сьв. Кірылы Тураўскага. Як помнік сьв. пам. Мячыславу Рачыцкаму дагэтуль захаваліся зробленыя ім памастацку царскія дзьверы йканастасу. Першая Багаслужба ў БАПЦ ў Таронце адбылася 2-га кастрычніка 1954. Служыў яе настаяцель а. Міхаіл, які вясной 1954 г. закончыў Духоўную Сэмінарыю ў Вініпэгу й быў высьвечаны сьвятаром. А 20-га лістапада адбылося ўрачыстае высьвячэньне Беларускага Дому ў Таронце Яго Праасьвяшчэнствам Архіяпіскапам БАПЦ Уладыкам Васілём у прысутнасьці вялікай колькасьці суродзічаў з Канады й ЗША.

І так, ня гледзячы на цяжкасьці й маральны ўдар, які быў падзел ЗБК, Згуртаваньне Беларусаў Канады ў 1954 г. здабыла сабе матар'яльную й рэлігійную базу. Мела незалежную царкву, свой дом, сваю Касу Самапомачы, сваю друкаваную газэту пад рэдактарствам Сп. К. Акулы.

У верасьні 1956 г. ЗБК ладзіць 2-ю Сустрэчу Беларусаў Паўночнай Амэрыкі ў Таронце й на Цэнтрал Айлэнд.

У 1957 г. на сьвяткаваньні 25 Сакавіка ў Таронце даў канцэрт ведамы беларускі сьпявак Пётра Конюх.

На 1958 год прыпадаюць 40-я ўгодкі абвешчаньня незалежнасьці БНР і 10-я ўгодкі ЗБК. Абедзьвум гадавінам аддаецца адпаведная пашана.

Праз 5 год сядзібай ЗБК быў дом на Ландас 1000. У 1959 г. ЗБК гэты дом прадае, а грошы з прадажы ўкладае ў куплю Беларускага Рэлігійна-Грамадзкага Цэнтру на 524 Ст. Клярэнс Авэ. ў Таронце. Будынак гэты быў набыты ў канцы жніўня, а 21 й 22 лістапада быў ён высьвечаны Яго Праасьвяшчэнствам Архіяпіскапам БАПЦ Уладыкам Васілём.

### 1960–я гады

Ужо ў пачатку 60-х гадоў у Канадзе пакучай сталася праблема двумоўнасьці Канады, дзеля якое была створана адумыслова „Ройал Комішн". Ці дзеля вонкавых прычын, ці перадусім дзеля таго, што ЗБК ужо ўсталявалася, у кажным выпадку яно ўсё актыўней пачынае ўваходзіць у русло канадзкага жыцьця. Грамадзкія арганізацыі Канады, а ў тым ліку й ЗБК, былі запрошаны „Ройал Комішн" выказацца ў справе двумоўнасьці Канады. Старшыня Галоўнай Управы ЗБК Др. Барыс Рагуля падае ў „Ройал Комішн" для Двумоўнасьці й Двукультурнасьці Канады „брыф" ад імя ЗБК.

Шматбаковы ўдзел ЗБК бярэ ў адзначэньні стагодзьдзя Канады. Др. Вінцэнт Жук-Грышкевіч у супрацоўніцтве з Сп-няй Лын Кулеш апрацаваў артыкул пра Беларусаў у Канадзе для кнігі „Дээ Канэдыен Фэмілы Трыі" выдадзенай Дэпартамэнтам оф Стэйт у Атаве ў 1967 г., а на канфэрэнцыі славістаў у Атаве, у якой браў удзел ад імя ЗБК, прачытаў ён даклад на тэму „Беларусы й Канадзкія Статыстыкі". Артыкул надрукаваны ў выданьні канфэрэнцыі „Слявз ін Кэнада", т.ІІ,1968.

Сп. Бпрыс Кірка выступае з сваёй танцавальнай групай на цэнтэніал фэстывалях Таронта.

Як свой „цэнтэніал праджэкт" Беларусы купілі фарму „Слуцак", што знаходзіцца каля 250 кілёмэтраў на поўнач ад Таронта, ды якая сталася беларускім летнім рэсортам.

19-ты Агульны Зьезд ЗБК у 1968 г. – „Годзе Людзкіх Правоў" – прымае рэзалюцыю ў абароне людзкіх правоў Беларускага Народу, і рассылае яе амаль усім дэлегацыям Задзіночаных Нацыяў і Прэм'еру Канады. Старшынём тады быў Сп. М. Ганько.

У нутроным жыцьці ЗБК 60-я гады былі гадамі ўзмоцненай нацыянальна-культурнай і арганізацыйнай дзейнасьці.

У 1962 г., калі старшынём Г. У. быў Сп. В. Касьцюкевіч, ЗБК ладзіла 3-ю з чаргі ў Канадзе Сустрэчу БПА. У гэтых гадох выходзіць на арэну Каардынацыйны Камітэт, які ў 1966 г. пад старшынствам Др. В. Жук-Грышкевіча, афармляецца статутам, як сталая арганізацыя пад назовам „Каардынацыйны Камітэт Беларусаў Канады", сябрамі якога тады былі Згуртаваньне Беларусаў Канады, Беларускае Нацыянальнае Аб'еднаньне й Самапомач Ашавы.

У жніўні 1965 г. паўстае Задзіночаньне Беларускіх Жанчын Канады пры ЗБК і парафіі БАПЦ пад старшынствам аўтаркі гэтых радкоў, а ў лістападзе 1968 г. – БІНіМ ў Канадзе пад старшынствам Др. В. Жук-Грышкевіча.

60-я гады былі роскітам нацыянальна-культурнай працы. Апрача сыстэматычна адзначаных дзён Незалежнасьці Беларусі й Героеў Беларусі, ЗБК у 1963 г. адзначае 100-я ўгодкі паўстаньня Кастуся Каліноўскага, у 1965 – 125-я ўгодкі ад нараджэньня Францішка Багушэвіча, у 1966-м – 60-я ўгодкі Нашай Нівы, 50-я ўгодкі ад сьмерці Алёйзы Пашкевіч-Цёткі. Гэтыя апошнія, як рэфэрат на тэму: „Пачаткі нацыянальнага адраджэньня ў Беларусі" арганізавала ЗБЖК.

На цэнтэніял Канады прыпадаў і вялікі беларускі юбілей – 450-я ўгодкі Беларускага Друку запачаткаванага Др-ам Францішкам Скарынам з „слаўнага града Полацка", які, як сам казаў, для пажытку люду паспалітага пераклаў на беларускую мову, бо з такой мовай Бог на сьвет яго пусьціў, Біблію, першую кнігу якую надрукаваў у Празе Чэскай у 1517 годзе. Гэтым Др. Францішак Скарына даў пачатак ня толькі беларускаму друку, але й друку на ўсходзе Эўропы.

Урачыстае адзначэньне гэтага слаўнага нашага юбілею ЗБК спалучыла з адзначэньнем і стагодзьдзя Канады. У праграму ўрачыстасьцяў уваходзілі: вялікая выстаўка Старога Беларускага Друку, урачысты сход і сяброўская бяседа.

Пасьля адкрыцьця выстаўкі Культурна-Асьветным Рэфэрэнтам ЗБК, аўтаркі гэтых радкоў, высокі канадыйскі ўрадавец Сп. Глын Алын даў даклад аб стагодзьдзі Канады, а Др. В. Жук-Грышкевіч зрабіў рэфэрат у беларускай і ангельскай мовах аб Пачатках Беларускага Друку.

У 1968 годзе ЗБК аддае пашану Залатому юбілею БНР і сьвяткуе сваё 20-я ўгодкі выстаўкай матар'ялаў зь дзейнасьці арганізацыі, акадэміяй, канцэртам і сяброўскай вечарынай.

60-я гады зачыняе, актыўны ў кулькурна-асьветнай працы, 1969 год. У лютым ЗБЖК ладзіць вечар паэзіі Натальлі Арсеньневай з удзелам самой Паэткі. У жніўні ЗБК жалобнай акадэміяй і выстаўкай адзначае 50-я ўгодкі сьмерці Івана Луцкевіча й 40-я сьмерці Антона Луцкевіча.

### 1970-я гады

У Канадзе набракаюць ідэямі шматкультуралізму, Квэбэцкім нацыяналізмам і сэпэратызмам, а ў нашым нутраным беларускім жыцьці трагэдыямі ў людзёх. Вясной 1970 году трацім зараз двох павадыроў: палітычнага – Старшыню Рады БНР інж. Міколу Абрамчыка, і рэлігійнага – Яго Праасьвяшчэнства Архіяпіскапа БАПЦ Уладыку Васіля. Пасьля адыходзяць ад нас у вечнасьць яшчэ хлапчуком Алесь Акула. У 1972 г. Мячыслаў Рачыцкі, у 1976 – маг. Алесь Грыцук, а нядаўна старшыня Парафіяльнай Рады М. Стэльмашак. (Іхнюю памяць на гэтым мейсцы ўшанавана хвілінай маўчаньня).

Ды жыцьцё ня спынялася! У пачатку 1970 г. у ККБК набыло двох новых сяброў: БІНіМ у Канадзе й Саюз Беларускай Моладзі Канады. Старшынем ККБК ад 1970 году Мэер Таронта што год абвяшчае, у сувязі з днём Незалежнасьці Беларусі, Беларускі Тыдзень у Таронце, у часе якога на ратушы Таронта ўзьвіваецца Беларускі Нацыянальны Бел-Чырвона-Белы Сьцяг.

У гэтым годзе ЗБЖК адзначыла 60-я ўгодкі жыцьця паэткі Ларысы Геніюш імпрэзай з дакладам аўтаркі гэтых радкоў на тэму: „Ларыса Геніюш – яе жыцьцё й паэтыцкая дзейнасьць."

1971 год быў годам важных падзеяў, якія не маглі не адбіцца на жыцьці ЗБК. Прэм'ер Канады П. Э. Трудо абвесьціў палітыку шматкультуралізму, ці інакш, права на жыцьцё й рост усіх культур Канады, у тым ліку й беларускае й права быць самім сабой.

У гэтым-жа годзе адбыўся й парапіс насельніцтва Канады. ККБК, праз сябру ЗБК Др. В. Жук-Грышкувіча, увайшоў у паразуменьне й супрацоўніцтва з Доміньён Бюро оф Статыстыкс дзеля таго, каб парапіс у адносінах да Беларусаў Канады адбыўся больш праўдзіва. У мінулым Беларусы Канады часта былі запісаны Расейцамі, ці Палякамі, а іхняе паходжаньне замест Беларусі было паданае, як Расея ці Польшча. Дзеля таго, каб гэтых памылак у перапісе 1971 году было як найменш, выдана была лістоўка друкам у беларускай і ангельскай мовах з паясьненьнямі, як адказваць на пытаньні анкеты перапісу. Лістоўка была пашырана па ўсіх беларускіх асяродках Канады.

З ініцыятывы й стараньнем Саюзу Беларускай Моладзі Канады пад старшынствам Паўлюка Пашкевіча, ды зь не малым удзелам сяброў ЗБК, у залі БР-ГЦ першы раз наладжаны быў беларускі павільён МЕНСК, як удзельнік „Каравану Таронта". І ад 1971 г. павільён МЕНСК сыстэматычна з году ў год прыцягвае тысячы наведвальнікоў, і знаёміць іх зь беларускай культурай і яе народам.

У Лёндане ў Англіі 15 травеня, 1971, адбылося ўрачыстае адкрыцьцё й высьвечаньне адзінай такога маштабу за мяжой Беларускай Бібліятэкі й Музэю імя Францішка Скарыны. У гэтай урачыстасьці брала ўдзел сяброўка ЗБК, аўтарка гэтых радкоў, якая карыстаючы з побыту ў Англіі дала Беларусам Лёндану даклад аб беларускім жыцьці ў Канадзе, а вярнуўшыся ў Канаду зрабіла даклад аб Беларускай Бібліятэцы й Музэю імя Францішка Скарыны ў Лёндане.

1972 год быў багатым на ўгодкі. Адзначаючы іх ЗБК праводзіла нацыянальна - асьветніцкую працу. Гэтак у лютым выстаўкай, сінімі васількамі, песьнямі й рэфэратам ушанавалі мы 80-я ўгодкі ад нараджэньня Максіма Багдановіча. Вясной 1972 г. прыпадала й 25-ці годзьдзе сваяцкага для ЗБК Згуртаваньня Беларусаў у Вялікай Брытаніі. Сваяцкага, бо шмат сяброў ЗБК было сьпярша сябрамі ЗБВБ, у тым ліку й сяньняшні Уладыка Мікалай, а Др. В. Жук-Грышкевіч быў адным зь яго Заснавальнікам, першым старшынём і цяпер ганаровым сябрам. Ён з жонкай – сяброўкай ЗБК – бралі ўдзел у сьвяткаваньні 25-годзьдзя ЗБВБ у Лёндане, Брадфардзе й Манчэстары.

На 1972 год прыпадалі й такія вялікія юбілеі, як 450-я ўгодкі друку на беларускай зямлі. У Вільні ў 1522 годзе выйшла з друкарні Др-а Францішка Скарыны ягоная „Малая падарожная кніжка". У 1972 годзе спаўнялася й 90 год ад нараджэньня Янкі Купалы й Якуба Коласа. Гэтым угодкам арысьвечана была 10-я Сустрэча БПА, якую, супольна з БАЗА, арганізавала ЗБК у Таронце. „Ад Скарыны праз Купалу й Коласа да нашых Дзён" – быў кліч Сустрэчы. Ідэалягічна Сустрэча ахапляла чуць не паўтысячагодзьдзе беларускай культуры, што выражана было выстаўкай старога беларускага друку, што найменш дзесяцёма рэфэратамі на тэму Сустрэчы, мастацкай выстаўкай абразоў сучаснай беларускай мастачкі й сяброўкі ЗБК Івонкі Сурвілы, канцэртам моладзі, Багаслужбамі й сяброўскімі імпрэзамі. Мастацкая выстаўка абразоў Івонкі Сурвілы, а тым самым і 10-я Сустрэча БПА задакумэнтаваная ў кнізе „Канэдыен Артыст ін Экзыбішын, 1972–1973".

Сябры ЗБК Сп. Янка Сурвіла й аўтарка гэтых радкоў бралі ўдзел у канфэрэнцыі „Гэрытыж Онтэрыё", што адбылася вясной 1972 г. у Таронце.

У лютым 1973 г. Др. Вінцэнт Жук-Грышкевіч запачаткаваў „Фонд Беларускіх Падручнікаў", які ўжо фінансаваў выданьне двох тамоў падручніка В. Пашкевіч „Беларуская Мова" –„Фундамэнтал Белёрусіен".

У травені 1973 г. Міністар Стану для Спраў Шматкультуралізму Др. Станлэй Гайдаш назначыў на сябру Дзяржаўнай Канадзкай Кансультатыўнай Рады для Спраў Шматкультуралізму, ці інакш „СССМ", сяброўку ЗБК Др. Раісу Жук-Грышкевіч. І хоць, паводле рэгуляміну, сябры „СССМ" ня могуць дзеіць як „спокісмэн" тае ці іншае арганізацыі, дык усё-ж становішча гэта дае магчымасьць папулярызацыі беларускага імя й магчымасьць абстойваньня інтарэсаў разьвіцьця беларускай культуры ў Канадзе. Беларусы атрымалі ад Фэдэральнага Ураду дзьве субсыдыі на друк падручніка „Фундамэнтал Белёрусіен" В. Пашкевіч. Першая Кніга падручніка выйшла ў 1974, а Другая ў 1978 годзе. І як Сп. Глын Ален раз на сьвяткаваньні 25 Сакавіка сказаў: „Гэта здабытак і ўклад ня толькі ў беларускую, але й у агульна-канадзкую культуру".

1975 год – Год Жанчыны. У сувязі з гэтым Задзіночаньне Беларускіх Жанчын Канады пад старшынствам Др. Р. Жук-Грышкевіч арганізавала ў сьнежні канфэрэнцыю ў Таронце, у праграму якое ўваходзілі: Выстаўка партрэтаў слаўных Беларусак пачынаючы ад Прадславы-Сьв. Еўфрасіньні Полацкай, а канчаючы на Вользе Карбыт – партрэты выканала сяброўка ЗБЖК Сп-ня Івонка Сурвіла – выстаўка дакумэнтаў й фатаграфіяў з жыцьця ЗБЖК і кніг напісаных Беларускамі. У канфэрэнцыі выступала чатыры сяброўкі ЗБЖК з дакладамі й дзьве з дэклямацыямі вершаў беларускіх паэтак, адна зь іх паэтка Натальля Арсеньнева, якая чытала свае вершы. Канфэрэнцыя прыняла рэзалюцыю, якая выступала ў вабароне чалавечых правоў жанчын у Савецкім Саюзе, а перадусім у БССР. Рэзалюцыя была выслана Міністру Замежных Спраў Канады Мэкэкану.

Дзякуючы Спадарству Сурвілам у 1976 г. у Атаве быў заснаваны

   

# БУДУЧЫНЯ БЕЛАРУСКАЙ ІМІГРАЦЫІ

Дарагія Спадарыні й Спадары!

Старшыня ЗБК зьвярнуўся да мяне з просьбай каб, у сувязі з трыццатымі ўгодкамі гэтай арганізацыі, я падрыхтаваў гутарку на тэму: „Куды мы йдзём?" Спадзяваюся, што гэта праца будзе адказам на яго пытаньне.

З самага пачатку засьцерагаюся, што мэтай гэтага адчыту з'яўляецца вызваньне дыскусыі тут прысутных. Я буду задаволены калі слухачы пераканаюць мяне, што я памыляюся. Пару тысяч гадоў таму назад старадаўныя рымляне стварылі прыказку: „Errare humanum est" што па нашаму значыць памыляцца гэта ёсьць натуральным для чалавека. А беларуская прыказка кажа: „Конь мае чатыры нагі й то спатыкаецца."

Перад разглядам прошласьці й будучыні беларускай іміграцыі ў Канадзе, неабходна затрымацца хоць вельмі павярхоўна над праблемамі будучыні кожнай іміграцыі. Розныя іміграцыйныя групы, як такія, будуць існаваць карацей або даўжэй, залежна ад іх спэцыфічных характэрыстак. Аднак усе яны падлягаюць аднаму агульнаму правілу: *„Кожная іміграцыя" будзе асыміляваная па пэўным часе.*

Аб гэтым добра ведаюць усе ўрады й іміграцыйныя ўлады.

А што-ж такое асыміляцыя? Словы асыміляцыя, асыміляваць, паходзяць ад лацінскага слова „similis", якое значыць падобны, такі самы. Такім чынам слова асыміляваць значыць зрабіць падобным, а практычна-вынарадавіць. *Людзі або народы, пражываючы даўжэйшы час сярод чужынцаў з вышэйшай культурай, прыймаюць іх мову, звычаі, страціўшы свае ўласныя.*

Прыкладам асыміляцыі можа служыць квэбецкі прэміер Rene Levergue, якога продкі паходзяць са Шкоцыі. Ці можна знайсьці ў Квэбэку лепшага француза-нацыяналіста чым Levesque? У чацьвёртым стагодзьдзі германцы заваявалі Францыю, Гішпанію ды Італію; у працягу часу яны заасыміляваліся да падбітых імі народаў маючых вышэйшую культуру. Сёньня няма й сьледу германцаў сярод гэтых народаў. Падобна сталася й з Баўгарамі, мангольскім народам, які падбіўшы Славянаў у 7-мым стагодзьдзі заасыміляваліся да іх мовы й культуры. Такія прыклады можна цытаваць бязконца.

Усе этнічныя групы стараюцца супрацьдзейнічаць асыміляцыі. Найлепш гэта ўдаецца вялікім групам, якія радыкальна розьняцца ад існуючай бальшыні ня толькі мовай, але апрычонай высокай культурай, расай, вонкавым выглядам, колерам і т.п. асабліва калі на пэўнай тэрыторыі яны становяць бальшыню.

Прыкладам могуць служыць Кітайцы – 119 000 у Канадзе, Жыды – 297 000, Украінцы – 581 000. Надварот Немцы, найбольшая эміграцыйная група, якіх ёсьць больш міліёна ў Канадзе, амаль што камплетна заасыміляваліся. Прыкладам можа служыць Diffenbacker.

Пры гэтай аказыі трэба зазначыць, што Канада ня ёсьць амэрыканскі „melting pot," які мае на мэту асыміляваць усе свае меньшасьці, а скарэй „Ethnic mosaic." Лібэральны ўрад стварыў і прапагаваў яшчэ нядаўна так званы „Multiculturalism," па беларуску „Шматкультурнасьць," які цяпер, з розных прычынаў, хутка выходзіць з моды. Так ці йначай, афіцыйная палітыка канадзкага ўраду дагэтуль не была настаўлена на асыміляцыю этнічных меньшасьцяў, але само жыцьцё асымілюе.

Першая беларуская іміграцыя мела мейсца ў 1900 гадах. Яна была нешматлікая, чыста зарабковая, складалася з вельмі бедных, непісьменных ды абсалютна нацыянальна нясьведамых сялян, якія Канада запісала расейцамі згодна дзяржаўнай прыналежнасьці. Дзяцей гэтых імігрантаў можна яшчэ тамсям спаткаць (прыклад Шышкі).

Пасьля апошняй вайны другая беларуская іміграцыя прыбыла ў Канаду; яна была чыста палітычная. Мы фактычна зьяўляемся палітычнымі ўцекачамі, а не імігрантамі. Імігрант пакідае бацькаўшчыну з эканамічных прычынаў. Гэта другая іміграцыя складалася з нацыянальна сьведамых беларускіх актывістаў, сярод якіх знайшлося шмат высока асьвечанай інтэлігэнцыі. М. Сільвановіч у канадзкай энцыкляпэдыі „Canadiana" падае лік Беларусаў у Канадзе на 10–15 тысяч. На жаль не вядома на якіх крыніцах абапёрты гэты лік і таму ён напрашвае пэўныя сумлівы.

Хаця беларусы асяліліся амаль у ва ўсіх правінцыях Канады, найбольш іх знайшлося ў Таронце, Мантрэалі й Вініпэгу. Пытаньне „Куды мы йдзём" адносіцца да ўсей беларускай іміграцыі. Аднак з практычнага пункту гледжаньня мы агранічымся на Таронце, закладаючы, што ў будучыні ня будзе новага даплыву беларускай іміграцыі, ані масавага павароту на бацькаўшчыну.

Заарганізаваньне ЗБК ў Таронце *28-га лістапада 1948 г.* зьяўляецца гістарычнай падзеяй. Мы сёньня сьвяткуем гэту 30-ю гадавіну. За гэты час Тарантаўскія беларусы патрапілі стварыць дзьве арганізацыі, дзьве царквы з адпаведнімі грамадзкімі памешканьнямі, сваю прэсу ды шматлікія культурна-навуковыя ўстановы. За гэтыя вычыны ім належыцца высокая пахвала, але таксама трэба іх ганіць за падзел на дзьве групы ды шкодныя сваркі. Ня гледзячы на гэта яны засталіся на толькі беларускімі патрыётамі, што прынамсі раз на год супольна сьвяткуюць угодкі Слуцкага Паўстаньня.

30 гадоў – доўгі час у жыцьці арганізацыі й чалавека. Сьвяткуючы гэтыя ўгодкі мы з гонарам аглядаемся на пройдзены шлях і адначасна з нейкім непакоем глядзім у будучыню патаючыся „Куды мы йдзём? Што ляжыць перад намі? Мы ўсе старэемся, нашы рады пачынаюць радзець ды радзець. Ці наша зьмена – маладыя – гатова, ці зможа нас замяніць і на як доўга? А нашы арганізацыі, цэрквы, дамы, што станецца з імі пасьля нас?"

*Будучыня кожнага народу, а таксама й іміграцыі гэта моладзь.* Мы выражаем глыбокую падзяку нашай моладзі за яе актыўны ўдзел ды вялікую дапамогу ў ладжаньні ўсіх нашых нацыянальных імпрэзаў. Аднак кожная моладзь розьніцца значна ад іх бацькоў. У нашых умовах гэтыя розьніцы значна глыбейшыя. Кожны чалавек зьяўляецца прадуктам нятолькі сваей расы, але таксама свайго часу, акружэньня й эканомікі.

Мы, старэйшае пакаленьне, радзіліся ў падняволенай і эканамічна адсталай Беларусі. Наша-ж моладзь амаль уся радзілася ў вольнай вельмі багатай краіне, краіне індустрыі й высокай тэхнікі. Яна прайшла праз канадзкія школы, вырасла, жыве й працуе расцярушаная сярод мяйсцовых вельмі розных ад нас людзей, *іх радзіма – Канада,* там дзе яны радзіліся й вырасьлі.

Далёкую, нязнаную Беларусь яны вельмі мглiста ведаюць толькі з апавяданьняў іх бацькоў. У вялізарнай бальшыні яны ня могуць чытаць, разумець беларускую прэсу й літаратуру. Іх актыўны беларускі запас слоў такі бедны, што паміж сабой яны паслугоўваюцца ангельшчынай. Калі да гэтага дадаць што моладзь жыве разцярушаная паміж мяйсцовым элемэнтам у сяброўстве й жанімстве мусіць задаваліцца не беларускім партнэрам, то мы ня можам яе вініць, што яна так шмат розьніцца ад нас. Калі-б хацелася каго вініць, то толькі іх бацькоў, якія ў пагоні за далярам вельмі часта занядбалі іх дзетак, пушчаючы іх на самапас.

Такім чынам, бяручы пад увагу ўсё вышэй сказанае, можна зарыскаваць цьвердзячы, што наша сучасная моладзь ужо цяпер асыміляваная каля 50%. Бязумоўна можна спрачацца адносна гэтай лічбы, аднак лепш глядзець праўдзе ў вочы, чым жыць ілюзіямі.

Ня гледзячы на гэта наша моладзь ўсё яшчэ *застаецца нацыянальна сьведамай.* Гэтыя людзі добра ведаюць, што яны з паходжаньня беларусы, бо іх бацькі называлі сябе так, гутарылі па-беларуску, заўсёды расказвалі аб Беларусі. Да гэтага моладзь брала актыўны ўдзел у розных беларускіх нацыянальных імпрэзах.

А як-жа будзе з трэцім пакаленьнем, дзяцьмі нашай сучаснай моладзі? Яны ўжо могуць не пачуць беларускай мовы ў іх семьях, бо за вельмі рэдкімі выключэньнямі, адзін з бацькоў ня будзе беларускага паходжаньня. У выніку чаго трэба прыпушчаць, што гэтае трэцяе пакаленьне будзе амаль камплетна асыміляваным.

Гледзячы яшчэ далей, на далейшыя пакаленьні – 4-тае, 5-тае й так далей, можна ўжо бачыць, што нашыя пра-пра-праўнукі ў выніку мяшаных жанімстваў, ужо ня змогуць устанавіць іх этнічнага паходжаньня, бо іх продкі належалі да некалькіх розных нацыянальнасьцей. Яны будуць змушаны называць сябе проста канадыйцам.

З пункту гледжаньня нацыянальнага мая праякцыя вельмі пэсымістычная. Аднак з пункту гледжаньня агульна людзкага гэта ня зробіць вялікай розьніцы. У далёкай будучыні розьніцы паміж нацыянальнасьцямі будуць сьціраіцца аж пакуль стануцца неактуальнымі.

Нехта можа запытацца ці можна й як бароцца супраць асыміляцыі. Так! Прыклады такога змаганьня маюцца ў Канадзе.

Французы ў Quebec ужо блізка 400 гадоў перахавалі сваю нацыянальнасьць. Гэта ўдалося ім таму, што лічучы звыш 6-ці міліёнаў, адзначаючыся высокай апрычонай культурай, рэлігіяй і расай жывуць скучаныя на агранічанай тэрыторыі, дзе становяць бальшыню насельніцтва. Ня гледзячы на ўсе гэтыя прыхільныя абставіны ім таксама паграджае асыміляцыя. Каб гэтага ўнікнуць R. Levesque і яго партыя сэпарыстаў стараецца адарваць Quebec ад рэшты Канады ствараючы замкнутае французкае „gheto". Пры аказыі трэба зазначыць, што тыя самыя французы паза Quebec досыць хутка асымілюююцца. (Прыклад з Belleville).

Рэлігійная сэкта Менанітаў – 169 000 разсеяны па ўсёй Канадзе групамі па 40-50 семьяў. Яны захавалі сваю нямецкую мову, вопратку й звычаі. Акрамя высока пастаўленай гаспадаркі Менаніты стварылі свае прамысловыя прадпрыемствы, школы, прэсу, багатыя культурна-рэлігійныя цэнтры. Ствараючы цесна замкнутае „gheto", яны адкідаюць усю вонкавую культуру, ўсякія сутыкі з акружаючым сьветам. Аднак і яны пачынаюць чуць уплыў асыміляцыі сярод моладзі. У часе апошняй вайны шмат моладзі пайшло ў войска супраць прынцыпаў Менанітаў.

Яшчэ горш прадстаўляецца справа з сэктай Духабораў. Духаборы, якіх ёсьць каля 10 000 у Канадзе, прыехалі з Расеі й асяліліся ў Saskatchewan а пазьней у British Columbia. Яны захавалі іх расейскую мову, старую вясковую культуру, маюць свае пачатковыя школы, выдаюць свой часапіс „Йскра". Таксама як і Менаніты, адгаражваюцца ад вонкавага сьвету. Апіраючыся розным уплывам акружэньня й ураду яны пратэставалі парадуючы голымі, палілі свае й другія дамы, школы, узрывалі масты ды чыгункі, за што 1 200 з іх сядзела ў турмах у 32–50 гадах. Апошнімі гадамі гэта штучнае „gheto" пачало паддавацца ўплывам акружэньня. Моладзь пачала вучыцца ў сьвецкіх сярэдніх і вышэйшых школах дзе асымілявалася досыць хутка. Духаборы пачынаюць асыміляваіцца, нягледзячы на зацяты супраціў старэйшага пакаленьня. Духаборы ў Saskatchewane ўжо нічым ня розьняцца ад акружаючага іх насельніцтва. Усякія „ghety", усякая штучная ізаляцыя памагае праз пэўны час, але жыцьцё ёсьць мацнейшае.

Наша нешматлікая іміграцыя, разсыпаная па ўсей Канадзе, жывучы ў гарадах, абсалютна ў нічым не падобна да ўспомненых этнічна-рэлігійных групаў.

Дук куды-ж мы йдзём? Мы йдзём.. ідзём нясучы без нараканьняў цяжкое бярэма абавязку, ідзём пакуль перастанем ісьці.. па цярністай дарозе выгнаньня.

*– Др. Яўхім Скурат*



**ВЫПІСВАЙЦЕ Й ПАШЫРАЙЦЕ АНГЕЛЬСКА–БЕЛАРУСКУЮ ГАЗЭТУ „БЕЛАРУСКІ ЧАС"**



# Юбілей Натальі Арсеньевай



**Рэдакцыя газэты „Беларускі ЧАС" складае як найшчырэйшыя пажаданьні Сп-ні. Натальі Арсеньевай з нагоды ейных 75-х угодкаў жыцьця й выданьня зборніка выбраных твораў: „Між Берагамі".**

**Налева, здымка паэтэсы зробленая 27 травеня сёлета падчас юбілейнай бяседы ў царкоўнай залі Сабору Св. Кірылы Тураўскага ў Брукліне Ню Ёрку.**

---

**Выйшла з друку кніга 15-я навуковага часапісу Беларускага Інстытуту Навукі й Мастацтва ЗАПІСЫ**

**У кнізе дасьледваньні, артыкулы, зацемкі, бібліяграфія, рэцэньзіі.**

**Цана кнігі 10 даляраў. Выпісваць паводля адрысу:**
**Byelorussian Institute of Arts and Sciences**
**3441 Tibbett Avenue, Bronx, New York 10463**

---

Выйшла з друку 2-ая кніжка працы:
Аўген Калубовіч
*МОВА Ў ГІСТОРЫІ БЕЛАРУСКАГА ПІСЬМЕНСТВА*
*Уводзіны: Дасюлешні стан вывучэньня помнікаў беларускага пісьменства X–XVIII ст.ст.*
(Гістарыяграфічны агляд), Клыўлэнд, 1978
Кошт кнігі – 4 даляры
Хто жадае, яшчэ ёсьць кн.1, кошт – 2 даляры.
Выпісаць можна, зьвяртаючыся на адрыс:
**Eugen Kachanovski, 27654 Hollywood Dr., Cleveland, Ohio 44145**

---

# 30 год ЗБК

*(працяг з 6-й бачынкі)*

аддзел ЗБК, стараньнем якога ў адной з Атаўскіх бібліятэкаў наладжана была выстаўка беларускага мастацтва. Выстаўка трывала на працягу цэлага месяца сакавіка. У гэткі спосаб Аддзел ЗБК ў Атаве адзначыў угодкі незалежнасьці БНР.

У гэтым годзе Сакратар Галоўнай Управы ЗБК сабрала й падала беларускія матар'ялы да друку для выданай Міністэрствам Асьветы й Культуры Антарыя кнігі: „Рэсорс оф Мультыкалчэрал Соасаеты", і матар'ялы для кнігі Глын Алена „Дэйз ту Рымэмбер" выданай тымжа Міністэрствам.

1978 год – юбілейны год для ЗБК і БНР. Пад гэтым сьцягам ён праходзіў, гэтым юбілеям была прысьвечана 13-я Сустрэча БПА ў Таронце. У Галоўную Управу ЗБК гэтага году ўваходзяць: старшыня Сп. В. Касьцюкевіч, заступнік старшыні Др. Б. Рагуля, сакратар Др. Р. Жук-Грышкевіч, скарбнік і адначасна старшыня аддзелу ЗБК ў Атаве Сп. Я. Сурвіла, старшыня аддзелу Таронта Сп. М. Ганько, старшыня аддзелу Садбуры Сп. М. Буцька, старшыня аддзелу Лёндан Сп. М. Шуст.

У гэтым годзе з ініцыятывы сябры ЗБК – Старшыні Рады БНР – Др-а В. Жук-Грышкевіча, а пад старшынствам скарбніка Г. У. ЗБК Сп. Я. Сурвілы быў заснаваны „Фонд Успамінаў зь Беларускага Жыцьця". Фонд гэты выдаў прысьвечаную 60-ым угодкам БНР брашуру В. Жук-Грышкевіча „25 Сакавіка", ды перавыдаў карту БНР.

У паразуменьні з Старшынём Рады БНР (сябрам ЗБК) сарганізавана была Юбілейная Пошта БНР з Паштовымі Канторамі ў Лёндане(Англія). Парыжы й Дубліне (Ірляндыя).

У гэтым юбілейным годзе выйшла з друку й 2-я Кніга „Фундамэнтал Беларусіен", В. Пашкевіч.

У часе рэгяльнага „мітынгу СССМ" ў Лёндане, Антарыя, раньняй вясной 1978, Беларусы прадставілі свой „брыф". Праект „брыфу" запрапанавала Сакратар ЗБК на паседжаньні ККБК, дзе было пастаноўлена, каб гэты „брыф" ішоў ад імя ККБК, а не толькі ад ЗБК. „Брыф" апрацавалі Сакратар ЗБК і Паўлюк ды Эва Пашкевічы. Спадарычна Эва Пашкевіч і прачытала яго на сходзе „СССМ".

У Трэцяй Усеканадзкай Канфэрэнцыі для Шматкультуралізму, што адбылася ў канцы кастрычніка ў Атаве, брала ўдзел трох Беларусаў: сябра „СССМ" Др. Раіса Жук-Грышкевіч, заступнік старшыні ККБК Сп. Паўлюк Пашкевіч і прадстаўнічка беларускай моладзі Канады, Сп-чна Ганна Сурвіла. Беларускія прадстаўнікі Канфэрэнцыі падалі праз Радыё Канада Інтэрнэшынэл сваю перадачу на Бацькаўшчыну.

Гэта вельмі агульны й далёка няпоўны нарыс таго, што мы праз 30 год рабілі. І бяручы пад увагу наш лік, мы зрабілі шмат. Сябры ЗБК на працягу 30-ёх год бязумоўна ўлажылі шмат працы, энэргіі, нэрваў, сэрца й душы, ўсё па тое, каб, як казаў Ніль Гілевіч, „Ня быць Краіне безіменнай, Зямлі Бацькоў не анямець!"

Ці былі памылкі, няўдачы? Бязумоўна былі! Там дзе ёсьць людзкая праца, там і ёсьць памылкі, але на памылках людзі й вучацца.

Я хачу на гэтым мейсцы вітаць усіх сяброў і прыхільнікаў ЗБК за іхнюю вытрываласьць, за іхнія асягненьні й жадаць ім далейшых багатых плёнаў працы ў будучыні!

Але за намі застаецца адзін нясплачаны, недаравальны доўг: мы недастаткова ўзгадавалі маладое пакаленьне, маладых сяброў ЗБК, маладых парафіян БАПЦ.

Для нас усьцяж актуальны той заклік Галоўнай Управы ЗБК з 20-га ліпеня 1950 г.: „Дарагія Сяброўкі й Сябры! Не давайце растварыцца й загінуць ані воднаму Беларусу ў моры чужынцаў!

*– Раіса Жук-Грышкевіч*

 

# ПІЧЭТА

*(працяг з 3-й бачынкі)*

такім аспэкце трэба весьці досьледы. У сьнежані 1920 году пераезджае ў Менск, каб узначаліць камісію ў справе адкрыцьця Беларускага Дзяржаўнага Ўнівэрсытэту. У 1921 г. ён напісаў працу „Навейшая Гісторыя Беларусі". 30 кастрычніка 1921 г. ходаньні беларускае інтэлігэнцыі зьдзейсьніліся — адбылося ўрачыстае адкрыцьцё Беларускага Дзяржаўнага Ўнівэрсытэту. Праф. У. Пічэта стаў ягоным Рэктарам.

Пачынаючы заняткі ў унівэрсытэце, прафэсары беларускага паходжаньня сустрэліся з крытыкай і пратэстамі, чаму чытаюць лекцыі на „мужыцкай" (беларускай) мове. Пічэта, як Рэктар, у адказ крытыкам ня толькі пачаў чытаць лекцыі па-беларуску, але запатрабаваў, каб у канцалярыях, на паседжаньнях і на навуковых канфэрэнцыях карысталіся беларускай мовай.

Адзначаючы 100 годзьдзе народзінаў Праф. Пічэты, ды 70 годзьдзе ягоных першых навуковых працаў прысьвечаных гісторыі нашага народу, мы даканалі-б вялікае праступства, калі-б ня ўспомнілі яшчэ аднае гадавіны — 50 годзьдзе ягонага арышту й зсылкі. У 1929 г. распачаліся арышты беларускае інтэлігэнцыі; арыштоўваюцца выдатнейшыя акадэмікі, прафэсары, навуковыя працаўнікі, адным словам, Расейцы задумалі нас абезгаловіць, ліквідуючы нацыянальна сьведамую й адданую свайму народу беларускую інтэлігэнцыю. Якое-ж злачынства даканалі сябры Беларускае Акадэміі Навук і прафэсары Беларускага Дзяржаўнага Ўнівэрсытэту, каб бяз судовага працэсу, ў турме адчытваць ім акты зьвінавачаньня й зсылаць у бязлюдныя прасторы СССР? Паступова высьвятлілася, што арыштоўвалі йх і зьвінавачвалі, што яны носьбіты нацыянал-дэмакратычных ідэяў, што яны адданыя патрыёты свайго Беларускага Народу. Але за што-ж арыштаваны быў Рэктар Менскага Ўнівэрсытэту, праф. Пічэта? Ён па паходжаньні ня быў беларусам, вышэйшую асьвету атрымаў у Маскве, у Менск прыехаў 40 гадовым мужчынам.

Пічэта быў арыштаваны, праўдападобна, за тое, што выступаў у абароне беларускае культуры й за тое, што наважыўся выхаваць студэнтаў з аналітычным падыходам да навукі, пры помачы каторага яны змогуць адрадзіць праўдзівую мінуўшчыну беларускага народу й дамагацца да стварэньня самастойнай беларускай дзяржавы.

Пічэту арыштавалі й саслалі ў Вязьму (Кіраў). Аднак, таму, што імя Пічэты было вядомае за межамі СССР, прыблізна ў 1932 годзе, дазволілі яму прыехаць у Варонеж. Пазьней савецкі ўрад даў Пічэту раскошную кватэру ў Маскве з добраабстаўленай бібліятэкай на якой Пічэта прыймаў чэскага прэзыдэнта Бэнэша. У 1939 годзе Пічэта атрымаў права чытаць лекцыі на Маскоўскім Унівэрсытэце і ў 1946 годзе быў абраны сябрам Акадэміі Навук СССР. Неабходна зацеміць, што праф. Пічэта атрымаў званьне заслужанага прафэсара БССР ужо ў 1926 г. а ў сьнежані 1928 г. стаўся сябрам Беларускае Акадэміі Навук.

Пічэта меў апублікаваных 285 артыкулаў, але не ўдастоіўся званьня акадэміка СССР, бо апрацоўваў беларускую мінуўшчыну, за каторую пацярпеў. Бязумоўна, што арышт і зсылка паклалі свой адпячатак на разважаньнях Пічэты. Ён памёр 23 чэрвеня 1947 г. Рукапісы сьветчаць, што да апошніх дзён ён цікавіўся беларускай гісторыяй.

Прайшло колькі год пасьля сьмерці Пічэты й прафэсары Маскоўскага Ўнівэрсытэту, С. Бахрушіно й В. Каралюк, напісалі нэкралёгі па ім. Бахрушіно піша: „Пічэта палюбіў Беларусь... перажываў нягоды беларускага народу... калі вялікарасейскія й польскія шувіністы адмаўлялі права самастойнага разьвіцьця культуры беларускаму народу ды спрачаліся, хто зможа праглынуць беларускую народнасьць, дык у абарону беларускае культуры выступіў Пічэта..." Каралюк пісаў: „Пічэта ня будучы беларусам, але дзякуючы надзвычайнай навуковай падрыхтоўцы аказаўся такім гісторыкам, каторы мог-бы ўзначаліць адраджэньне беларускае гістарычнае школы... ён, нават, у апошнія гады свайго жыцьця ўспамінаў аб менскім пэрыядзе — гаварыў з усхваляваньнем, бо лічыў, што гэта быў пэрыяд поўны запалу... уздыму... гэраізму."

## MEMORANDUM ON COOPERATION

*(continued from page 2)*

nations of the USSR will be impossible as long as we Russians do not recognize our primordial anti-religious 'messianic' sin which bore the atheistic imperialism sending us on the path of totalitarian expansion and aggression within and without, isolating us, creating dissentions, and provoking us to the insolent attempts of russifying all those who have had the misfortune to be in our way. We must once and for all abandon this fateful disease of the conscience under whatever covers it may hide, chauvinistic or messianic, Communist or Orthodox and on whatever part of the globe it may appear.

8). It is also necessary to abandon the deceitful speculations of the concept of 'Holy Russia' which currently attracts some of those who advocate the abolition of Soviet Communism. The syndrome of 'Holy Russia' has the same atheistic, anti-religious, chauvinistic and messianic origin. It is presented as an attempt to sanction the national 'uniqueness' of the Russian people. The idea of 'Holy Russia' is not a movement toward dismemberment of the awkward conglomerate of 'Soviet republics' but a movement toward the formation of a new prison of nations similar to that of the 'Holy Roman Empire' with the center in Moscow. Under certain circumstances and in a modified form, this course may yet become attractive to the Soviet Communists. The idea of 'Holy Russia' is a new trap constructed by Russian imperialists. It is similar to the trap that was sprung in its time by the Bolsheviks who promissed to create an international Communist 'heaven' first in Russia and then in the world. Today we remember with horror how these promises were abused.

In opposition to the proponents of 'Holy Russia' we assert: on this earth there are no holy people and no holy nations, all nations are equal before their Creator. All have a share of divinity and share human sins. All are equally entitled to freedom and the pursuit of their national goals.

We wish to stress the following:

**The process of utilization by the Kremlin of Russian imperial tendencies including chauvinism and anti-Semitism which serve to enhance its purposes is finding an echo among other Russian chauvinists who gather under the slogans of an abstract, nationless, anti-Communism and the false thesis of 'Holy Russia'. More and more openly they condone the 'achievements' of Muscovite Communism. This includes russification under the mask of Sovietization and the call to continue the long-standing Russian tradition of enslavement of neighboring nations.**

In view of the above, we call upon all persons who are aware of the complexity and dangers of the present-day situation and who are concerned with the fate of the nations presently within the USSR suffering the heavy yoke of Muscovite despotism, to join us for the purpose of demonstrating a unified will capable of restraining the destructive process — the fascistization of the Soviet regime, — a process implemented by Russian chauvinists and imperialists the central theme of which is denationalization and russification.

*— P. Boldyrev, Chairman Committee for Russia Without Colonies*

# Парх. Сьвята ў Дэтройце

У нядзелю 17 чэрвеня 1979 Парафія імя Сьвятога Духа ў Іст Дытроіт, Мічыган, урачыста адзначыла сваё Парафіяльнае Сьвята.

Сьвятую Літургію адправіў настаяцель Прыходу, а. Максім, у саслужэньні з Дыяканам а. Янкаю (Бруцкім).

На гэты дзень, так як і ў папярэднія гады, Прыход належна падрыхтаваў усё патрэбнае, каб прыняць многіх гасьцей і разам з імі памаліцца за Сьвятую Беларускую Аўтакефальную Праваслаўную Царкву, на долю якой выпала вельмі адказная місыя на рэлігійным і культурна - нацыянальным полі ў жыцьці беларускай эміграцыі ў ЗША.

На заканчэньне Багаслужбы, царкоўны хор адсьпяваў некалькі разоў „Сто год" за разьвіцьцё Парафіі Сьвятога Духа й за здароўе гасьцей і сяброў Прыходу, якія ўлажылі многа працы й падтрымалі Парафію сваімі фінансавымі ахвярамі.

Пасьля Багаслужбы адбыўся супольны абед для ўсіх прысутных, наладжаны Сястрыцтвам Прыходу.

У часе абеду, Старшыня Парафіяльнай Рады, Др. Я. Сажыц, падзякаваў усім прысутным за іх падтрымку й падзяліўся з усімі дасягненьнямі Парафіі за час яе існаваньня. Ён падкрэсьліў асабліва выразна вялікае значэньне беларускай Царквы ў падтрыманьні й захаваньні нацыянальных вартасьцяў беларускага народу падчас асабліва жорсткага наступу чужых элемэнтаў на Бацькаўшчыне ў кірунку поўнай асыміляцыі Беларусоў. Для ілюстрацыі гэтага ён прывёў некаторыя зацемкі з „Майсей і Дэтант" вялікага ўкраінскага патрыёта й духовага праведніка, Валентына Мароза, які пасьвяціў многа ўвагі беларускай праблеме, а асабліва няўстойлівасьці й капітуляцыі Беларусоў перад спробамі „старэйшага брата" разьбіць нацыянальную самабытную культуру й мову нашага народу.

Такіх янчараў, вышаўшых з гушчы народу, ёсьць многа на Бацькаўшчыне, а іх заданьнем зьяўляецца зьнішчэньне нацыянальных устояў народу.

Якраз тут на чужыне, Беларускай Царкве прыпала доля стаяць непахісна на стражы шматвяковых дасягненьняў беларускага народу.

І якраз Парафія Сьвятога Духа вядзе працу ў гэтым кірунку, што й зьяўляецца яе найважнейшым заданьнем.

Пасьля абеду ўсе прысутныя жыва дыскутавалі балючыя праблемы й разышліся з глыбокім маральным задаваленьнем з дасягненьняў і працы Парафіі на тэрэне Штату Мічыган.

— *В. П.*

# ЛІСТЫ Ў РЭДАКЦЫЮ

### Сьв. Памяці М. Гарошка — Дзеяч і Патрыёт Беларускага Народу

Вельмі Паважаны Сп. Рэдактар!

Думаю што Вам ужо ведама што 29 красавіка, Мітрапаліт Андрэй рукапалажыў мяне ў чын дыякана Беларускай Аўтакуфальнай Праваслаўнай Царквы.

Зноў хочу прыпомніць, што Ваш пакойны Бацька ў 1972 г. на Царкоўным Зьезьдзе заахвочваў мяне далучыцца да ліку сьвятароў БАПЦ. З усіх сустрэчаў і размоваў з Пакойным Інж. Гарошкам у мяне засталося вельмі пазытыўнае ўражаньне. Трэба зазначыць яго шчыры й дзейны або актыўны падыход да спраў. Гэтага падыходу я не заўважыў у многіх старэйшых нашых дзеячоў. Ён працаваў безкарысна для свае царквы ў першых яе радох і таксама быў першым у беларускім грамадзкім жыцьці.

Яму ня трэба было нічога скрываць ці таіць, бо ён ішоў шляхам простым да зьдзейсьненьня нашае рэлігійнае, нацыянальнае й эканамічнае незалежнасьці. Ён ня думаў што бяз яго ня будзе нічога рабіцца, але працаваў у напрамку каб аставіць пасьля сябе пасьлядоўнікаў нашае вялікае ідэі — Незалежнасьці Беларускага Народу. Таму ён дбаў за будучыню нашае БАПЦ і БАЗА. Ён шчыра дзяліўся з людзьмі сваімі клопатамі пра будучыню нашых нацыянальных установаў. Будучы ўжо ў старэйшым веку, ён быў маладым духова, вельмі актыўным з новымі ідэямі, плянамі й прапановамі. Ён безперапынна выконваў кіраўнічыя функцыі ў БАПЦ, Фундацыі Крэчэўскага або ў БАЗА. Сьв. Памяці Інж. Гарошка астаецца ў маёй памяці як сапраўдны дзеяч і патрыёт з уроджанай інтэлігэнцыяй і з здабытай вялікай эрудыцыяй, якія ён аддаў на службу свайму паняволенаму Беларускаму Народу.

Хай Усемагутны Бог пашле нам годных пасьлядоўнікаў на далейшую працу ня толькі тут, але й на Бацькаўшчыне.

З хрысьціянскай любоўю да Вас,
а. Дыякан Я. Бруцкі

### Парафія Сьв. Пятра й Паўла ў Адэлайдзе Разьвіваецца

Вельмі Паважаны Спадар Рэдактар!

Сп. Хмара ў „Беларускім Голасе" піша, што нібы людзі перасталі хадзіць да нашае царквы Сьв. Пятра й Паўла а Адэлайдзе, як высьвяцілі новага сьвятара, а. Аўгеня Сітніка. Няведаю хто такую ману падаў. У запраўднасьці царкоўнае жыцьцё не зьмянілася, а наадварот, прыбыло тры сям'і.

З пашанаю да Вас,
— Акавіты